


**РОДНАМУ СЛОВУ**

*Было спрадвеку, слова, ты*
*Крыніцай цудадзейнай сілы,*
*Што вызваляла з нематы,*
*Айчыны ніву каласіла.*

*Ты наталяла смяглы рот*
*І выкрасала ўдар грамовы,*
*Каб сам сабою стаў народ,*
*Пачуўшы гукі крэўнай мовы!*

**Рыгор Барадулін**


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 2 (1037) ГОД XXI 11 СТУДЗЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## У нашых самадзейнікаў

*Тэатральны калектыў з Бельскага беларускага ліцэя. Сцэна з п'есы К. Губарэвіча „Яраслаўскія вечары". З гэтай пастаноўкай бельскія ліцэісты выступілі ў мінулагоднім конкурсе БГКТ для тэатральных калектываў і на цэнтральным аглядзе занялі III месца (катэгорыя драматычных калектываў).*

*Фота Я. Цялушэцкага.*





# КАМАНДЗІР ПЧАЛІНАЙ АРМІІ

— Усё люблю: гаспадарку, сад, але пчол найбольш, — гаворыць Андрэй Шаховіч, сямідзесяцігадовы пчаляр з Сакоў. — Палюбіў я іх усім сэрцам. Нават ноччу і то мне сняцца.

А ўсё пачалося ад найменшага. Не адразу ўзнікла гэтая шасцідзесяцівуллевая з некалькімільённай пчалінай арміяй крэпасць. Спачатку, гэта значыць у 1935 годзе, быў толькі адзін вельмі просты, зроблены ў пні нейкага дрэва, вулей, які сёння, схіліўшы саламяную галаву, стаіць у кутку пасекі і спаглядае старэчым вокам, поўным суму, на тую драўляную тэхніку, што звольніла яго з пасады, пасылаючы на адпачынак.

Пчол трымае на адным месцы. Не вывозіць іх у іншыя вёскі, як часта робяць некаторыя пчаляры. Вядома, гады не дазваляюць. А так у сябе ў садзе і бяспечней і дагледзець лепш можна. Многаму навучыла саракагадовая практыка. Дзякуючы ёй, спазнаў амаль усе таямніцы з жыцця пчалінай сям'і. А чаго сам не падглядзеў, тое літаратурай папаўняе. Ведае, калі мёд можна выбраць, а калі трэба яго пакінуць.

— Пчол трэба любіць больш, чым мёд. Слабы гэта гаспадар, калі галоднымі іх трымае, — гаворыць ён.

Так яно і ёсць. Найважнейшае — гэта даць есці, забяспечыць на зіму. Могуць яны зімаваць і на мёдзе, і на цукры. Наш пчаляр дае апошні. Проста распускае яго ў вадзе і ставіць у вулей. Сярод пасекі стаяць дзве будкі, зусім не падобныя на жыллё гэтых крылатых працаўніц. Не, гэта зусім нешта іншае. Першая будка — старажоўка са шклянымі вокнамі. Адсюль гаспадар наглядае за пчоламі, калі тыя рояцца. Зразумела, якая-небудзь маладая сям'я, калі ў адпаведным часе не падставіш пустога вулея, можа ўцячы. Трэба сачыць. Другая, можна сказаць, — „фабрыка" мёду. Тут усе прылады. Трэба ж неяк аддзяліць гэтую густую салодкую вадкасць ад воску. Адным словам, ёсць тут усё патрэбнае ў пчалярстве. Хаця не, не ўсё. Аднаго не хапае — простага кацялка для вытаплення воску. Але гэта не толькі ў яго. Проста яшчэ не прыдумалі чагосьці падобнага.

Апрача гэтага, Андрэй Шаховіч, як член садаўніча-пчалярскага кааператыву, многія гады супрацоўнічае з аддзелам пчалярства пры ВРН. Мае ён два кантрольныя вуллі, якія стаяць на вазе ўласнай работы. Важыць іх і зранку і ўвечары, а вынікі гэтага высылае ў Беласток у штомесячных справаздачах.

А што з мёдам? Кожнае лета збірае яго 600 кілаграмаў, гэта значыць, што адна пчаліная сям'я дае 10 кг. Потым прадае разам з воскам у „Вітаміну".

(Працяг на стар. 4)



# ? КАНЬЯК АД ВАЯВОДЫ

**Станіслаў Топур,** беластоцкі віцэ-ваявода, першы раз пабываў у Тыневічах недзе на весну 1975 года. На ўзгорку за вёскай, дзе паводле праекту мела знаходзіцца жывёлагадоўчая ферма, спакойна яшчэ раслі рэдзенькія ядлоўцы і сасонкі, а вецер раздуваў жаўтаваты пясок.

Рабочыя будаўляна-рамонтнага прадпрыемства, якое спецыяльна дзеля гэтай пабудовы заснавала тыневіцкая спулдзельня прадукцыйная, толькі рыхтаваліся да вялікага наступлення: **6 будынкаў для адкорму ялавічыны па 214 цялят у кожным.** Разам амаль 1300 букатаў, якія з тыневіцкай жывёлагадоўчай фермы неўзабаве будуць паступаць на мясакамбінаты. Кошт пабудовы аднаго будынка — **1 мільён 300 тысяч злотых.**

Ваявода ведаў, што гэта толькі пачатак няведанага ў гісторыі гайнаўскіх вёсак, вялікага мерапрыемства, якое за пяць-сем год карэнным чынам адменіць воблік Нараўскай гміны.

— Калі датрымаеце тэрміну, — заявіў ён, — з мяне — каньяк.

Кіраўнік прадукцыі тыневіцкай спулдзельні прадукцыйнай **Сяргей Мартынюк** упэўнена паціснуў руку ваяводы і рашуча заявіў:

**— Тады чакаем вас з каньяком 22 ліпеня 1976 года.**

Паўторна віцэ-ваявода Станіслаў Топур наведаў Тыневічы ў верасні мінулага года. Тады я там быў таксама. На ўзгорку за вёскай раўлі ўжо бульдозеры, грукаталі трактары, скрыгаталі землечарпалкі, разбліскваліі зварачныя апараты і спакойна мітусіліся рабочыя. На фоне зялёнага лесу ўжо красаваліся драўляныя канструкцыі паасобных будынкаў жывёлагадоўчай фермы. Некаторыя з іх пакрыты ўжо былі дахам, а іншыя яшчэ свяцілі голымі рэбрамі.

У след за кіраўніком Сяргеем Мартынюком скачам па гурбах раскопанай і перамешчанай зямлі. І адначасова знаёмімся з лёсам гэтага маладога, энергічнага чалавека.

Сяргей Мартынюк нейкі час быў старшынёй павятовага праўлення Саюза вясковай моладзі ў Сямяцічах. Як на маладога чалавека, які толькі што пачынае свой сталы жыццёвы шлях, прыпаў на яго долю даволі высокі грамадскі аванс. Пасля была вайсковая служба.

— Я мог зноў трапіць недзе ва ўстанову ці ў нейкую грамадскую арганізацыю. Аднак хацелася рабіць штосьці канкрэтнае, ствараць трывалыя матэрыяльныя вартасці. І таму я згадзіўся, калі запрапанавалі мне стаць тут кіраўніком прадукцыі. Тыневіцкая спулдзельня перажывала тады цяжкі перыяд свайго існавання. Было тут усяго шэсць членаў...

Верыць не хочацца, калі глядзіш на тыя велізарныя пераўтварэнні, якія тут здзяйсняюцца. На адным толькі будаўніча-рамонтным прадпрыемстве працуе цяпер амаль 100 чалавек, для якіх спулдзельня — апрача высокай зарплаты — кожны дзень уласнымі сіламі рыхтуе поўныя абеды за палавіну платы.

(Працяг на стар. 4)




**У дружнай сям'і варшаўскіх студэнтаў ● Беларуска-польскі сімпозіум у Мінску ● Аб Беларускім календары на 1976 год ● Фальклорны вечар „Падляшскіх кукулак" ● Сямяцічы перамаглі (у „Банку гарадоў", вядома) ● Дзе чорт да сну люлюкае? ● Калі прысніцца балаган у пакоі ● Што рабіць з валасатым тварам? ● Весткі з Бельска, гміны Юхновец, Крывяціч, Каменя, Канюкоў, Чыжыкаў і Пуціскаў, Дубяжына ● Песня „Świat starych filmów".**

## ШТО НОВАГА?

### Шлюб па камерцыйных цэнах

Больш за ўсё вяселляў у краіне ўзыходзячага сонца прыходзіцца на восень. У верасні — лістападзе ў іншыя гады рэгіструецца да палавіны шлюбаў. Пікам вясельнага сезона з'яўляецца кастрычнік: банкетныя залы гасцініц і рэстаранаў у гэтыя дні запоўнены ўрачыста апранутымі японцамі.

Здаўна ў японскіх шлюбах прысутнічалі ўсялякага роду пасрэднікі, якія высвятлялі, напрыклад, фінансавае становішча і рэпутацыю маладога ці маладой. У апошні час ролю пасрэднікаў усё часцей бяруць на сябе „рэнтабельныя" шлюбныя бюро і канторы. Каб уявіць сабе размах дзейнасці гэтых кантор, дастаткова сказаць, напрыклад, што толькі ў адной з іх зарэгістравана 80 тысяч адзінокіх японцаў.

Бюро арганізуюць сустрэчы ў кафэ, барах, рэстаранах, кінатэатрах — у залежнасці ад заможнасці кліентаў. Неяк малады чалавек аказаўся настолькі бедны, што сустрэча была прызначана проста на вуліцы.

Камерсанты стараюцца разнастаіць метады ўцягвання кліентаў. Напрыклад, арганізуюцца выезды ў спецыяльных паяздах на возера Кавагуці, якое размешчана ля гары Фудзі. Зразумела, такі „сервіс" не бясплатны — зборы па 400 іен з кожнага папаўняюць кішэні наладжвальнікаў прагулак. Другая шлюбная кантора наладзіла агледзіны ў парку Сіндзюку, амаль у цэнтры Токіо. Усе „госці", некалькі соцень мужчын і жанчын, мелі на грудзях нумары. Прэса пісала аб правале гэтага „мерапрыемства". Тыя, хто сабраўся, саромеліся адзін аднаго, адчувалі сябе ўніжанымі.

Не засталося ў баку ад прыбыльнага бізнесу і японскае тэлебачанне. Жадаючым у спецыяльнай праграме прадстаўляецца магчымасць „паказаць" сябе мільёнам тэлегледачоў і растлумачыць, каго б ім хацелася падабраць сабе ў спадарожнікі жыцця.

Шлюбная камерцыя зацікавіла буйныя фірмы. Сусветна вядомая кампанія „Міцубісі", якая вырабляе, можна сказаць, усё — ад салфетак і дзіцячых пялёнак да ракет, баявых самалётаў і караблёў, — стварыла „сямейны клуб" для сваіх супрацоўнікаў. На „Міцубісі" працуе каля 300 тысяч чалавек. З іх некалькі дзесяткаў тысяч — незамужнія і халасцякі. Па просьбе клуба даследчы інстытут кампаніі выкарыстаў камп'ютэр. „Шлюб з дапамогай машыны" — так назвала гэта прадпрыемства японская прэса. „Хлопцы і дзяўчаты з „Міцубісі" губляюць шмат часу і грошай на пошукі партнёраў. Мы скарачаем гэтыя патрэбныя страты да мінімуму", — заявіў адзін з ініцыятараў шлюбнага бізнесу ў кампаніі. Наўрад ці можна згадзіцца з гэтай заявай. Бо ЭВМ пачне падбор кандыдатаў у мужы ці жонкі толькі пасля таго, як кліент заплаціць салідную суму — восем тысяч іен. У выпадку, калі яе выбар аказаўся падыходзячым, трэба ўплаціць „узнос удзячнасці" — яшчэ да 50 тысяч.

Жадаючыя ў „Міцубісі" ўступіць у шлюб запаўняюць дзве анкеты — агульную і падрабязную. У агульнай указваюцца ўзрост, вага, рост, адукацыя, заробак, пасада. У падрабязнай трэба сказаць, чым захапляецца чалавек, стан яго здароўя, якія і ў якой колькасці ўжывае спіртныя напіткі, ці валодае іншаземнымі мовамі, ці водзіць машыну, як адносіцца да прагрэсу, ці кансерватыўны, у якой ступені паважае старэйшых. Усе гэтыя даныя дазваляюць экспертам па кадрах паступова вывучаць людзей, зразумела, у інтарэсах фірмы.

Японская прэса адзначае, што „шлюбны бізнес" становіцца ўсё больш прыбытковым, служыць крыніцай нажывы для прадпрымальных дзялкоў. Уварванне камерсантаў у „арганізацыю сямейных адносін" вядзе да разбурэння традыцый і рытуалаў, да духоўнага апусташэння.

**А. Мачэхін**

## У СЯБРОЎ НАД ОЛЬЗАЙ

Наведваючы Чэхаславакію па запрашэнню прадстаўнікоў Польскага культурна-асветнага саюза ў Чэхаславакіі, я пазнаёміўся з іх культурна-асветнай і грамадска-палітычнай дзейнасцю.

У прыгранічнай паласе ў Чэхаславакіі пражывае каля 58 тысяч палякаў.

Ад 27 чэрвеня 1946 года, г.зн. ад дня, калі Краёвым нацыянальным камітэтам у Брне — экспазітура ў Астраве — быў зацверджаны Статут Польскага культурна-асветнага саюза, дзейнічае масавая і папулярная арганізацыя палякаў у Чэхаславакіі. Ад часу свайго заснавання да сённяшняга дня ПКАС актыўна ўдзельнічае ў грамадска-палітычным і гаспадарчым жыцці Чэхаславакіі як адно са звенняў Нацыянальнага фронту.

Галоўнае праўленне Польскага культурна-асветнага саюза мае сваю сядзібу ў чэшскім Цешыне. У даны момант да арганізацыі належыць каля 24 тысяч членаў, аб'яднаных у 92 гуртках. Толькі адзін гурток налічвае 33 члены, у іншых больш чым па 62 асобы. Найбольшы гурток у Тшынцы на пасёлку № 6 налічвае 1026 членаў.

У апошнія гады змянілася структура ўзросту членаў. Найбольшую групу сярод членаў складае моладзь ва ўзросце да 25 год. Члены ва ўзросце да 35 год складаюць у Саюзе 36,7%. Як выглядае сацыяльны склад членаў? Рабочыя — 43,9%, разумовыя работнікі — 18,1%, студэнты і вучні — 10,7%, іншыя, у тым ліку дамашнія гаспадыні, — 27,3%.

Апрача грамадска-палітычнай дзейнасці, ПКАС звяртае вялікую ўвагу на культурна-асветную дзейнасць. У 1974 годзе дзейнічала 14 жаночых харавых калектываў, 8 мужчынскіх і 21 мешаны, якія ў суме далі 309 канцэртаў. Дзейнічала 25 малых вакальных калектываў, якія далі 138 канцэртаў, і 13 інструментальных калектываў, якія выступілі 191 раз. Усё гэта сведчыць аб багатых выніках культурна-асветнай працы Польскага культурна-асветнага саюза ў Чэхаславакіі.

Дзейнасць калектываў актывізуюць конкурсы, якія арганізоўвае ПКАС: ігры на музычных інструментах, сольнага спеву, малых вакальных і інструментальных форм, агляды школьных хораў, а ўкаранаваннем усіх форм культурна-асветнай працы з'яўляюцца штогадовыя фестывалі польскай песні. У першай частцы праграмы (вельмі багатай) праходзяць выступленні салістаў і аматарскіх калектываў, а ў другой частцы выступаюць прафесіянальныя калектывы і спевакі з Чэхаславакіі і Польшчы.

Да найбольш вядомых і заслужаных калектываў ПКАС можна залічыць калектыў песні і танца „Гурнік", калектыў песні і танца „Ольза", хор польскіх настаўнікаў у ЧССР, калектыў дзіцячай рытмікі і балету, жаночы вакальны калектыў „Мелодыя", мужчынскі хор „Гасла" і мужчынскі хор „Гейнал", які 8 лістапада мінулага года святкаваў сваё 45-годдзе. Урачыстасць адбылася ў прыгожым доме культуры шахцёраў у мясцовасці Гавінаў-Суха, а я меў прыемнасць удзельнічаць у ёй.

Апрача хораў, інструментальных, вакальных і танцавальных калектываў, дзейнічае тут 49 драматычных калектываў, якія аб'ядноўваюць 471 члена.

У 1974 годзе гэтыя калектывы далі 117 прадстаўленняў. Самым папулярным драматычным калектывам з'яўляецца 8-асабовы тэатр лялек „Байка", які ставіць п'есы аўтараў сацыялістычных дзяржаў, а асабліва польскія лялечныя спектаклі. У 1974 г. калектыў даў 286 прадстаўленняў, у тым ліку 4 прэм'еры. На гэтых прадстаўленнях было 20356 гледачоў, у тым ліку 18910 дзяцей.

Адной з цікавых форм дзейнасці ПКАС, асабліва сярод моладзі, з'яўляюцца спартыўныя калектывы і секцыі, якіх у 1974 годзе дзейнічала 73. Па ініцыятыве грамадскіх камітэтаў ПКАС арганізуюцца штогадовыя спартыўныя спаборніцтвы і тэматычныя краязнаўчыя экскурсіі ў рамках працы клубаў маладых.

У рамках працы асветнай камісіі ГП ПКАС арганізуе багатую лектарскую дзейнасць. У 1974 годзе былі праведзены 592 лекцыі і даклады, на якіх прысутнічала 23979 чалавек. Была арганізавана таксама 81 выстаўка. У большасці выпадкаў былі гэта выстаўкі, тэматычна звязаныя з. рознымі падзеямі і гадавінамі. Арганізоўваліся яны ў школах і клубах ПКАС. З году ў год расце запатрабаванне на добрыя фільмы, якія прысылае Цэнтр польскай культуры ў Празе, Генеральнае консульства ПНР у Астраве і Акруговая пазычальня фільмаў. У 1974 годзе адбылося 126 сеансаў, на якіх прысутнічала 13760 гледачоў.

Вельмі шырокую дзейнасць вядзе ПКАС у святліцах і клубах, якія будуюцца грамадскай працай членаў гурткоў і пры дапамозе ГП ПКАС. Ад 1966 да 1974 года пабудавана 7 святліц, а перабудавана і мадэрнізавана 11. Моладзь будуе спартыўныя аб'екты і дапамагае будаваць святліцы і дамы ПКАС.

Пры дапамозе павятовых публічных бібліятэк у Карвіне і Фрыдэцку штогод арганізоўваюцца конкурсы чытачоў для школьнай моладзі. У 1974 годзе ў іх прыняло ўдзел 24 школы з колькасцю 503 удзельнікаў. Традыцыйным мерапрыемствам ПКАС з'яўляецца месяц асветы, кніжкі і прэсы, у рамках якога арганізуецца кніжная латарэя, спалучаная з выстаўкамі кніжак у гуртках. Штогод ГП ПКАС арганізуе выстаўкі польскай кніжкі, спалучаныя з кірмашамі кніжак і пласцінак, на якіх у 1974 годзе было прададзена кніжак на суму 16502 кр. і пласцінак на 11930 кр.

У публічных бібліятэках з 78 польскімі аддзеламі ў Карвінскім і Фры-

(Працяг на стар. 5)

### Наша галерэя

Ткачук В. М. „Парк зімой", лінагравюра. (Мінск).

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 10.I.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Upr. rośl. 7.00 J. pol. 7.30 Hod. zwierz. 8.50 Red. Szk. zap. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Nauka o człowieku — Krążenie krwi. 10.00 Dla szkół: (kl. I—III) Czerwone, żółte, zielone. 10.10 Pios. dla Ciebie. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Geogr. 11.35 Jazdy na nartach uczy Karl Schranz. 12.30 Ukraina radz. 13.00 Sobota Młod. 14.00 Po drugiej stronie kamery — rep. z realiz. filmu „Noce i dni". 15.00 STUDIO 2. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.15 STUDIO 2.

**Niedziela 11.I.** 6.25 Tech. Rol. J. pol. 6.55 Hod. zwierz. 7.25 Kurs Rol. 8.00 Przyp., radz. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdr. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Wiad. sport. 9.00 TELERANEK. 10.20 Antena. 10.40 W starym kinie: Zwariowane komedie. 11.45 Lekt. Pegaza. 12.00 Dzien. 12.20 Tydzień. 12.50 Piórkiem i węglem. 13.15 Dla dzieci. 14.00 W górach i dolinach Etiopii. 14.50 Los. Duż. Lot. 15.05 Bonanza. 16.05 Licytacja — teletur. 17.15 Refl. ob. 17.30 Sport. 18.10 Co nowego, panie Neegaaed — pr. muz. rozr. 19.15 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Rodzina Whiteoaków. 21.20 Róże Montreux — film rozr. 21.45 Sam na sam z Jerzym Antczakiem. 22.45 Informac. magaz. sport.

**Poniedziałek 12.I.** 12.45 Tech. Rol. J. pol. 13.25 Mechaniz. rol. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 17.00 Dla dzieci. 17.40 Echo stad. 18.05 28 grudnia — czwartek — film ser. radz. 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Teatr TV: A. Czechow — „Płatonow". 21.50 Między nami rodzicami. 22.30 Dzien. 22.50 Serenady wieczorne.

**Wtorek 13.I.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 6.30 Mech. rol. 7.30 Film. fab. 9.00 Dla szkół: (kl. V) J. pol. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Hist. 13.25 Tech. Rol. Hist. 14.30 Matem. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Sylw. X Muzy — JADWIGA BARAŃSKA. 17.30 Nie tylko dla pań. 17.55 Studio Młod. 18.50 Fakty, Op., Hip. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.35 Personel — film TVP. 21.35 Świat i Polska. 22.20 Dzien. 22.40 Opera.

**Środa 14.I.** 6.00 Tech. Rol. Hist. 6.30 Mat. 7.30 Film fab. 9.00 Dla szkół: (kl. VII) Chem. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. 11.05 Dla szkół: (kl. VIII) Fiz. 12.45 Tech. Rol. Bot. 13.25 Hod. zwierz. 14.40 i 15.15 Politech. Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.40 Inf., Tow., Prop. 17.50 Wieczór w muzeum. 18.15 X Y Z — cz. II. 18.40 Spotk. z medyc. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Kino Inter. Filmów: „Baxter" — film fab. ang. 22.05 Dzien. 22.20 Mistrz. Europy w jeździe figur. na lodzie.

**Czwartek 15.I.** 6.00 Tech. Rol. Bot. 6.30 Hod. zwierz. 7.30 Film fab. 9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Przysp. obr. 10.00 Dla szkół: (kl. II lic.) J. pol. 13.25 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Upr. rośl. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z brat. 18.10 Poligon. 18.30 Anat. sukcesu. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Teatr Sensacji: Okoliczności sprzyjające. 21.30 Pegaz. 22.15 Dzien. 22.30 Mistrz. Europy w jeździe figur. na lodzie.

**Piątek 16.I.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 7.30 Film fab. 9.00 Dla szkół: (kl. V) Geogr. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Geogr. 11.05 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wychow. tech. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Wych. obywat. 12.45 Tech. Rol. Mat. 13.25 Zool. 14.40 i 15.15 Politech. Mat. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.35 Zrób to sam. 18.10 Inform. Wydawn. 18.25 Człowiek i przyroda — W dziewiczych lasach Wenezueli — film dok. hiszp. 18.50 Sezam. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Wiad. sport. 20.25 „Mój program" przedstawia ELŻBIETA BARSZCZEWSKA. 21.35 Panorama. 22.20 Dzien. 22.35 Mistrz. Europy w jeździe figur. na lodzie.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 9.I.** — 7.30 Filmy anim. 8.00 Film fab. 15.05 Film ser. 16.15 Film dok. 17.00 Hokej z Bostonu. 19.30 Spektakl muz.

**Sobota 10.I.** — 8.00. Film. anim. 12.20 Film fab. 14.45 Film anim. 17.25 Film fab. 20.40 Koncert.

**Niedziela 11.I.** — 9.40 Warcaby. 10.30 Film anim. 11.30 Film fab. 13.55 Hokej z USA. 16.15 Filmy anim. 19.30 Hokej z USA.

## КІНО

**Białowieża** Aresztuję cię przyjacielu — ang. 13—14. Rodzinny gang — wł. 15—16. Ostatni seans filmowy — USA. 17—18.

**Czeremcha** Dziewczyna szuka szczęścia — ang. 13—14. Księżniczka Czardasza — węg. 17—18.

**Czyże** Weronika w kraju czarów — rum. Ktoś za drzwiami — fr. 14—18.

**Dubicze Cerkiewne** Grzech Katarzyny — czes. Koniec wakacji — pol. 14—18.

**Gródek** Szczęśliwy człowiek — ang. 17—18.

**Kleszczele** Po drugiej stronie słońca — ang. 13—14. Poszukiwany — poszukiwana — pol. 15—16. Wystrzał — pol. 17—18.

**Michałowo** Płonąca tajga — radz. 13—14. Dzielny wojak Rosalino — jug. 15—16. Awans — pol. 17—18.

**Milejczyce** Bez wyraźnych motywów — fr. 13—14. Przygody małego Bimbo — rum. 15—16. Charley Warrik — USA 17—18.

**Mielnik** Dzieje grzechu — pol. 17—18.

**Narew** Gniazdo — pol. Miłość rozkwita w piątek — rum. 14—18.

**Narewka** Mania wielkości —fr. Ziemia obiecana — pol. 14—18.

**Nurzec** Woda życia — radz. 13—14. Nie ma mocnych — pol. 15—16. Kobiety, które kochałem — rum. 17—18.

**Orla** Komedia pomyłek — pol. Okna czasu — węg. 14—18.

**Rajsk** Jarzębina czerwona — pol. Miłosne kłopoty — radz. 14—18.

**Suchowola** Czerwone i białe — pol. W drodze na Kasjopeję — radz. 14—18.



B.Z.Graf. Zam. 40 F-2

# СПРАДВЕЧНА НОВЫ

Каля яго бярэ пачатак старажытная рака Баброва, а ён ад змрочнай даўнасці ўсё завецца Новым: недзе ў канцы XV стагоддзя звалі яго Новы Двор Белы, у маёмасцях каралевы Боны насіў імя Новае Мястэчка, а потым і па сённяшні дзень проста — Новы Двор.

У ліпнёвыя ўсмажлівыя поўдні гудзіць ён роем працавітых пчол і пахне ліпавым квеццем, а ў подыху багача-верасня на пухкія грады лажацца на спачынак залатыя антонаўкі ды шапаціць шаўкавісты табачны лісць, што атуляе сцены яго збудаванняў даўніх і новых. І калі моўкне звон на бараковай, з XVIII стагоддзя, званіцы, на яго вуліцах звініць адвечная ціш. І слухае яе напевы помнік паўшых у імя справядлівасці і волі тых, што жывуць у белых хацінах пад змуршэлымі саламянымі стрэхамі і ў звонкіх прасторных новых дамах. Заслухаліся і ружы, вычараваныя звычайным долатам звітнай рукой безыменнага разьбяра, і гонкія бярозы ды кучаравыя клёны за каменным царкоўным мурам.

Мякка і памяркоўна струменіцца жыццё ў спрадвечным Новым Двары.

**Ігнат Снарскі**
**Фота аўтара**














## Залатыя зярняты народнай мовы

Паскораны тэмп прагрэсу ва ўсіх дзялянках жыцця беларускага народу на нашых вачах хутка і беспаваротна ўстараняе з ужытку значную колькасць устарэўшых або мясцовых слоў. *„За словамі крыецца, як вядома, шмат вельмі цікавых і важных таямніц далёкага мінулага нашага народа,* — заўважаюць А. А. Крывіцкі і Ю. Ф. Мацкевіч — рэдактары зборніка *„З народнага слоўніка“*, што ў бягучым годзе выдаў Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР. — *Ды і не выключана таксама магчымасць, што якое-небудзь з занатаваных рэгіянальных слоў, выпрабаваных і адшліфаваных многімі пакаленнямі, спатрэбіцца і для нашых агульнанародных зносін, для майстроў мастацкай мовы“*. Іменна дзеля гэтага і перш за ўсё з мэтай усебаковага вывучэння мовы беларусаў у БССР праводзіцца ў апошнія гады вялікая работа па збіранню і апрацоўванню народнай лексікі, выходзіць штораз болей дыялектных слоўнікаў, паяўляюцца ўсё новыя навуковыя даследаванні.

У гэтай шырокай плыні зацікаўлення лінгвістаў гутаркавай мовай беларусаў адметнае месца займае вышэй спамянуты зборнік. Між іншым, знаходзім у ім каштоўны для даследчыкаў гісторыі беларускай дыялекталогіі артыкул М. Ф. Гуліцкага *„Рукапісныя матэрыялы для слоўніка беларускай дыялектнай мовы“*, у якім даецца інфармацыя пра значнае багацце запісанай рознымі збіральнікамі беларускай народнай лексікі, што знаходзіцца ў архівах і рукапісных аддзелах бібліятэк г. Ленінграда. У ім нашай увагі заслугоўвае рукапіс П. Рафаловіча *„Наблюденья над языком простого народа, живущего в Гродненской губернии“*, у якім могуць аказацца запісы з Беласточчыны. А. А. Крывіцкі ў артыкуле *„Тры этапы фарміравання дыялектнай лексікаграфіі“* дае кароткую, але надзвычай змястоўную і глыбокую характарыстыку гісторыі збірання і апрацоўкі народнага слоўніцтва, вылучаючы ў ёй этнаграфічны, этна-лінгвістычны і дыялектаграфічны этапы. Пры гэтым аўтар адзначае значную ролю польскіх збіральнікаў і даследчыкаў — З. Даленгі-Хадакоўскага, Я. Чачота, А. Кіркора, Р. Зянкевіча і іншых — у збіранні і даследаванні беларускага народнага слова асабліва ў першым этапе гісторыі яго вывучэння.

Далей у зборніку, у яго двух раздзелах „Лексічныя асаблівасці гаворак“ і „Народная тэрміналогія і наменклатура“ знаходзяцца 23 слоўнікі, у якіх у суме змешчана каля 5 200 дыялектных слоў з выбраных дзялянак народнага побыту, напрыклад: жывёлагадоўлі, пчалярства, рыбалоўства, плытніцтва, колішняга вясельнага абраду і г.д. з розных мясцовасцей рэспублікі. Для нас асаблівую каштоўнасць і цікавасць прадстаўляюць два сярод іх: *„Да слоўніка Гродзеншчыны“* Я. М. Рамановіча і *„Палескія назвы посуду, бочак, кошыкаў і іншых ёмістасцей“* Г. А. Цыхун, а гэта таму, што большасць змешчаных у іх слоў і назваў ужываюцца ў штодзённым побыце беларусаў Беласточчыны. Усе гэтыя *„гойданкі“*, *„дахоўкі“*, *„зялепухі“*, *„ключкі“*, *„сноўніцы“* або *„балеі“*, *„бойкі“*, *„бочэчкі“*, *„вэрцягі“*, *„дзежэчкі“*, *„дойніцы“*, *„кошэлі“*, *„рэшэты“*, *„ступкі“*, *„цэбрыкі“*, *„чыгуны“* і сотні іншых як бы жыўцом узяты з беларускіх гаворак паміж Бугам і Бебжай.

Падкрэсліваючы шматгранную каштоўнасць зборніка „З народнага слоўніка“, з жалем прыгадваем, што багатае народнае слоўніцтва беларусаў Беласточчыны ўсё яшчэ застаецца па-за ўвагай збіральнікаў і даследчыкаў. Бо манаграфіі Э. Смулковай *„Лексіка з абробкі зямлі ў гаворках усходняй Беласточчыны на ўсходнеславянскім фоне“* і *„Мясцовыя назвы паўднёва-ўсходняй Беласточчыны“* М. Кандрацюка, ды каля дзесяці артыкулаў гэтых жа аўтараў ды некалькі іншых даследчыкаў — гэта надзвычай мізэрны плён з нашай народнай слоўнікавай нівы. Яна ўсё яшчэ чакае сваіх жанцоў, хоць шмат з яе буйных зярнят сыплецца з цяжкіх калоссяў і гіне ў беспаваротным забыцці.

**Ігнат Снарскі**

# У прэзідыуме ГП БГКТ

18 снежня адбылося чарговае, апошняе ў 1975 годзе пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ. Першы пункт павесткі дня прысвечаны быў абмяркоўцы справаздачы аб дзейнасці БГКТ за II паўгоддзе 1975 года. З задавальненнем было сцверджана, што ўсе пункты плана працы былі выканаваны, а перадз'ездаўскія дырэктывы партыі актывізавалі нашу арганізацыю.

Затым старшыня ГП Мікалай Самоцік прадставіў план працы прэзідыума на I паўгоддзе 1976 года.

Новы, 1976 год будзе характарызавацца мабілізацыяй насельніцтва на рэалізацыю пастаноў VII З'езду ПАРП. З гэтай думкай апрацаваны план працы прэзідыума ГП на I паўгоддзе 1976 года. Ён амаль супадае з планам святкавання 20-ай гадавіны БГКТ і „Нівы“, юбілейныя даты якіх прыпадаюць на 26 лютага і 4 сакавіка. Гэта будзе таксама перыяд справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках БГКТ, а таксама выбару ў іх дэлегатаў на VIII з'езд БГКТ, які адбудзецца ў канцы мая. Вось таму ў плане святкавання юбілею гаворыцца аб тым, што ў студзені, лютым і сакавіку на справаздачна-выбарных сходах у гуртках БГКТ будуць шырока папулярызавацца дасягненні БГКТ і „Нівы“. З гэтай мэтай ужо падрыхтоўваецца спецыяльны дапаможны матэрыял. Важнай падзеяй будзе навукова-папулярная сесія аб напрамках дзейнасці і дасягненнях БГКТ і „Нівы“. Падрыхтоўвае яе навуковы гурток. Сесія запланавана на канец лютага. У той жа час у памяшканні ГП будзе адкрыта фотавыстаўка, адлюстроўваючая дзейнасць нашага таварыства на працягу дваццацігоддзя.

Літаратурнае аб'яднанне ГП БГКТ „Белавежа“ падрыхтоўвае літаратурны конкурс, тэматычна звязаны з працай БГКТ. І нешта новае ёсць. Ідуць намаганні, каб выдаць памятны медаль і значок БГКТ, прысвечаныя 20-ай гадавіне БГКТ, а таксама значок і памятную хустку, прысвечаныя 20-годдзю „Нівы“. Апрача таго, з нагоды 20-ай гадавіны „Нівы“ плануецца ў сакавіку арганізаваць урачысты канцэрт. Пачынаючы ад юбілейнай даты, г.зн. ад 26 лютага аж да VIII з'езду БГКТ, „Ніва“ будзе змяшчаць матэрыялы аб дзеячах БГКТ, а таксама разгорне шырокую дыскусію адносна ўвядзення новых форм працы і ўдасканальвання існуючых.

Пад лозунгам „20 год БГКТ і „Нівы“ на працягу ўсяго 1976 года будуць адбывацца ўсе мерапрыемствы БГКТ, у тым ліку песенны і драматычны конкурсы, а таксама народныя фэстыны БГКТ.

Пасяджэнне прэзідыума закончылася стварэннем грамадскага камітэта святкавання 20-ай гадавіны БГКТ і „Нівы“, у склад якога ўвайшлі: Мікалай Самоцік — старшыня, Георгі Валкавыцкі — намеснік старшыні і члены камітэта: Янка Зенюк, Аляксандр Баршчэўскі, Аляксандр Іванюк, Аляксандр Рафаловіч, Сымон Шыманюк, Сцяпан Трафімюк, Ніна Цыванюк, Юрка Туронак, Віктар Швед, Аляксей Карпюк, Янка Цялушэцкі, Мікалай Гайдук, Міхась Хмялеўскі, Янка Вішанка, Яніна Чэрнякевіч, Галена Мялешка і Людміла Васілюк. (мх)

